# РАДАВАЯ РБ БЕЛАРУСЬ

Пятніца. 5 лютага 1999 году. № 2 (00002)
Наклад 400299. Кошт 10000 талераў

Грамадзка-палітычная газэта
Заснаваная ў студзені 1999 году


## У КРАІНЕ

### КАНГРЭС НЕ ПРАЙШОЎ!

Як і прадказвала нашая газэта, гэтак званы "Кангрэс сацыялістычных сілаў" мінуў спакойна й усялякія парвакацыі з боку ворагаў нацыі й народнае ўлады прайшлі марна, а сталіца спала спакойна. Кангрэсмэны пашумелі ў фае і залі Палацу імя Слуцкіх ткальляў на ўскраіне Менску ды, пасьля спансаванага праз кампартыі Нікарагуа й Кітаю полудню, разьбегліся па сваіх кублах, што раскінуліся цэлаю сеткаю па ўсёй Беларусі. Варта адцеміць, што гэта толькі відочная "магутнасьць" сацыялістаў–кожная "ячэйка" найбуйнейшага Інтэрсацыялістычнага Фронту складае ад двух да пяці чалавек, дый самыя яны разьядналыя. Кожны змагаецца за сваю долю вялізнага гранту, адваленага напачатку мінулага году кітайскімі спэцслужбамі ў памеры 32 мільёнаў юаняў. Варта толькі дзівіцца, як нашая зямля носіць пачвараў, якія замест таго, каб працаваць дзеля свае краіны, блукаюць у брудных піўных клюбах ды жлукцяць за здароўе чужых правадыроў і за перамогу ворагаў. На іншае гэтыя здраднікі свае народнае Бацькаўшчыны–нашае любае Беларусі няздольныя. А мы можам толькі цешыцца, што нутраная бясьпека краіны абароненая й беларускі народ застаўся адзінаю крыніцаю ўлады пад мудрым кіраўніцтвам гаранта ягонага йснаваньня Ягамосьці Прэзыдэнта Алелькі Цыбулькі!

**Серж Рапухін,"РБ"**

# Дзіцячыя жарсьці



Не пасьпелі адгуляць на вуліцах і пляцах Менску сацыялісты з сваімі бруднымі чырвона-балотнымі анучамі, як ажывіліся іхныя дзеткі. Гэныя малыя шпакі павыпаўзалі з-пад сваіх калысак ды ўзьнялі гвалт з пагрозамі вывесьці беларускую моладзь на вуліцы й зьдзейсьніць сацыялістычную рэвалюцыю. Ні для кога, аднак, не сакрэт, што палымяныя прамовы лідэры гэтага натоўпу азьярэлых юнакоў выгукваюць на сваіх канспірацыйных сходах зусім не праз шчырасьць, а ў залежнасьці ад колькасьці грашовае масы, што сьцякае ў іхныя дзіравыя кішэні. І вось, зараз, калі ў маскоўскіх і варонескіх банках назьбіралася дастатковая колькасьць грошай, каб зладзіць грунтоўнае шоў-сход маскальшчыны з шалёнымі скокамі да раньня ў экстазе ад выпітых пляшак "Маскоўскае", было абвешчана аб правядзеньні Зьезду Юнацкага Інтэрсацыялу ды нават прызначаная дата–7 лютага. Маладыя прыхільнікі ідэі ўсеагульнае беднасьці й галечы мяркуюць запужаць беларускую народную ўладу ў абліччы абедзьвюх палатаў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі, Прэзыдэнта і Ураду краіны. Яны пагражаюць у гэты дзень зацьвердзіць плян скасаваньня ладу народнае дэмакратыі ў Беларусі ды распачаць тэрарыстычную кампанію праз раскідваньне антыўрадавых улётак і ўзьняцьце перад цюрскамоўнаю супольнасьцю сьвету гоману аб парушэньні правоў носьбітаў іншага гледзішча на шляхі разьвіцьця нашае Рэспублікі. Безумоўна, што на Ўсходзе пачнецца інтэнсіўнае пашырэньне блёку SITO (South Indian Treaty Organization) і ўваходжаньне ў ягоны склад каўкаскіх валадарстваў і ханстваў Азэра, Байджану, Ічкеру, Кабарды й Балкару. Аднак ня варта турбавацца наконт гэтых авантураў маленькіх дзетак апазыцыянэраў, бо ў абсягу Каўказу на варце інтарэсаў эўрапейскае хрысьціянскае супольнасьці й народнае дэмакратыі стаяць сяброўскія БНР Народныя Рэспублікі Арменіі, Грузіі, Аланіі, Абхазу й Крыму. З поўдня ж межы братняе Беларусі вартуе Народная Ўкраіна. Урады балканскіх рэспублік ад Чарнагорыі да Баўгарыі яшчэ летась засьцераглі цюркскія ханствы, што ў выпадку далучэньня да SITO каўкаскіх дзяржаваў, іхныя сталіцы будуць бамбардаваныя й зьнішчаныя.

Дык ці насамрэч малыя соцыкі здольныя скінуць усенародна абраную й легітымную ўладу Беларускае Народнае Рэспублікі? Хіба здольныя яны разбурыць грунтоўную сыстэму прадстаўнічае дэмакратыі, усталяванае й дзейснае ад 1918 году? Не! Нават эканамічны крызыс апошняга часу, выкліканы бамбардаваньнем стосамі фальшывых талераў нашае тэрыторыі з боку Маскоўшчыны не зьмяніў стаўленьня беларускага народу да сваіх правадыроў. Бо ўрад і Ягамосьць Прэзыдэнт Алелька Цыбулька праводзяць сваю ўзважаную палітыку зацікаўленага дыялёгу паміж усімі фракцыямі ў Народнай Партыі БНР, кансультацыяў і пошуку няпростых разьвязаньняў самых складаных пытаньняў. Грамадзтва гэтаксама не чакае і ўсе людзі згуртавана працуюць, каб перадолець часовыя цяжкасьці і ўвайсьці ў XXI стагодзьдзе моцнаю эканомікай і нацыянальным духам Рэспублікай.

Міністэрства адукацыі Беларускае Народнае Рэспублікі выпрацавала адмысловую інструкцыю дзеля спраўджваньня ўва ўдзельнікаў Зьезду Юнацкага Інтэрсацыялу іхных пасьведчаньняў аб адукацыі. Асобы без адпаведных дакумэнтаў будуць зьняволеныя й да высьвятленьня іхнага лёсу ў пляне пісьменнасьці й веданьня "Беларускае Граматыкі Вінцука Вячоркі" мецьмуць утрымлівацца ў вязьніцы па вуліцы Братоў Луцкевічаў, 8. У выпадку фіксацыі асобаў без грамадзянства ім пагражае высылка ў Чарнобыльскае ваяводзтва. Дзіцячыя жарсьці застануцца ўсяго толькі дробнаю правакацыяй і могуць мець значэньне толькі для самых удзельнікаў Зьезду. Беларуская Народная Рэспубліка можа спаць спакойна.

**Элка ЛЮДАЖЭРКА,"РБ"**

## ТЭЛЕАНОНС

**Народная Тэлевізія Беларусі**

**Панядзелак**
5.00 "Добрай раніцы, ... нацыя!"
Вядучы Віктар Шалкевіч

**Аўторак**
19.00 "Запрашаем да Вячоркі"
Вядучы Спадар Вінцук

**Серада**
21.45 "НАГА" мастацкі фільм. Рэжысэр Вольга Караткевіч

**Чацьвер**
19.45 "Угадай мэлёдыю, або я вас ня чую!"
Перадача для маладафронтаўцаў
(Сурдаперакладнік Павал Адраджэньня)

**Пятніца**
23.55 "Пра гэта"
(* дзецям да 16-ці)
Вядучы Славамір Адамовіч

**Субота**
00.25 "Клюб вандроўнікаў
(* дзецям да 16-ці)
Вядучы Адам Глёбус

**Нядзеля**
22.30 "Блакітны агеньчык"
з Барысам Майсеевым



# СЭМІНАРЫЯ

У памяцьканьні рэдакцыі газэты "Наша ніва" 27 студзеня у горадзе Мінску адбыўся спансаваны Ўрадам Беларускае Народнае Рэспублікі сэмінар для беларускіх адраджэнцаў з Рэспублікі Беларусь на тэму "Беларускі язык".

Зь першым дакладам выступіў Славамір Адамовіч, які на пальцах (рот ягоны, як памятаем, зашыты з 1997 году) патлумачыў, што акцыі накшталт "Дню без чужога слова"–гэта ўчорашні дзень. Выступоўца заклікаў слухачоў пашыраць беларускую нацыянальную ідэю ня словам, а справаю.

Спадара Адамовіча падтрымаў наступны лектар Зьміцер Бартосік з сваім лірычна-музычна-рэвалюцыйным дакладам "Вэртыкаль і гарызанталь". Лейтматыў выступу: кожны адраджэнец мусіць займаць актыўную пазыцыю... (перапічыў іх, колькі ведаў).

Павал Адраджэньня пазнаёміў прысутных з падстаўовымі падвалінамі авалоданьня беларускім языком.

А закончыў сэмінар Адам Глёбус, які прадэманстраваў некалькі канкрэтных прыёмаў авалоданьня беларускім языком, вывучаных ім у Амсьцердаме ды іншых местах сьвету. Усё гэта было ўкладзенае ў брашуру "Новы Дамавікамэрон", раздадзеную ўдзельнікам гэнае імпрэзы й прысутным журналістам.

Сэмінарысты гэтак заслухаліся й заглядзеліся, што на'т спазьніліся на полудзень у "Гішпанскі куток", што насупраць сядзібы вядомага мінскага пана Зьмітрака Бартульлі. Няцяжка здагадацца, якую страву давалі ў якасьці асноўнае...

Сэмінар быў чыста мужчынскаю імпрэзаю. Гэтак было сплянавана самымі арганізатарамі ад пачатку. Але ніякага ўціску правоў жанчыны не было, бо ўжо праз два тыдні на тым самым месцы мае адбыцца жаночы трэнінг на гэткую ж тэму. У якасьці асноўнага трэнэру запрошаная Моніка Лявінская.

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ БІЗНЭС

У аддзел юстыцыі Партызанскае акругі сталіцы прыйшла заяўка ад сп. Вадзіма Карцава і К° з просьбаю заснаваць таварыства з абмежаванаю адказнасьцяй "Кантактавая група".

На пытаньне, чым будзе займацца ТАА "Кантактавая група", заснавальнік адказаў, што ў пэрыяд абвастрэньня выступаў левае апазыцыі ў буйных местах Рэспублікі ягоная фірма спадзяецца няблага зарабіць на экскурсіях замежных грамадзянаў ў эпіцэнтры вулічных акцыяў. "Маем ужо падпісаныя дамовы з шэрагам турфірмаў Францыі: тысячы сівагаловых вэтэранаў парыскае "студэнцкае рэвалюцыі" 1968 году выказваюць жаданьне прыгадаць часы бурлівае маладосьці",—кажа прадпрымальнік Карцаў. Аднак фірма не гарантуе бясьпекі замежным грамадзянам, таму Партызанскі аддзел юстыцыі запатрабаваў разам з запрашэньнямі замежнікам у сталіцу Радавае Беларусі дасылаць і папярэджаньні аб недатычнасьці Беларускае дзяржавы да бясьпекі турыстаў.

## У СЬВЕЦЕ

### НОВАЯ ІМПЭРЫЯ ЗЛА

Спадарожнік Нацыянальнае Выведнае Агенцыі Беларусі зафіксаваў паведамленьне падземнае радыёстанцыі "Славянская" ў правінцыйным пасёлку Нью Васюкі, што ў Тульскай губэрні Маскоўшчыны, пра ўтварэньне дзесьці ў джунглях Індыі новае імпэрыі–Ведычнае Эўрапейскае Азіяцкае Славянскае Імпэрыі (ВЭАСІ). Гэтая дзяржава ў сваёй Дэклярацыі аб незалежнасьці заявіла пра імкненьне захопіць Эўразійскі кантынэнт ды стварыць на ягоным абшары вялізную імпэрыю ведаў. Рада Рэспублікі прыняла заяву, у якой выказвае занепакоенасьць гэтаю правакацыяй. Паколькі слова "веды" арганічна йснуе ў нашай мове ад самае старажытнасьці, дык стварэньне гэнае "ведычнае" імпэрыі можа пакласьці цень на стасункі паміж БНР і Індыяй. Індыйскі амбасадар устрымаўся ад камэнтару, аднак міністэрства нутраных справаў Беларусі занялося спраўджваньнем працы навуковага таварыства "Веды" за амаль 50-гадовы прамежак часу. Мяркуецца, што ягоныя дзеячы маглі спрычыніцца да стварэньня ВЭАСІ, паколькі неаднойчы імкнуліся пашыраць рознага кшталту веды далей за абсягі дзейнасьці свае арганізацыі. Сакратарыятам мэдыяў за публікацыю праславянскіх артыкулаў у №2 сёлета зачыненая газэта "Дубаўцова Ніва". Міністэрства статыстыкі высьветліла, што ў сваім артыкуле "Бой" ягоны аўтар Дзіма Барт сьведама прарэкямаваў прадукцыю й эканамічны лад ВЭАСІ і гэта паспрыяла закрыцьцю газэты.


РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ

Заснавальнікі–Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада

*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*

Галоўны рэдактар

Паўлюк Я. КУБЭ